Год VI. ЛІСТАПАД 1928 г. Кніжка 9 (19)





Першы Беларускі Месячнік Сельскай Гаспадаркі.

ЗЬМЕСТ:



Цана асобнага нумару 30 гр.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны — Вільня, Людвісарная вул. № 1.

# САХА

Першы Беларускі Месячнік Сельскай Гаспадаркі.



## Гаспадарка на пясках.

(*Навазыбкаўская дасьледчая станцыя*).

Пяскавыя глебы пакрываюць амаль усю Беларусь. Фізычныя асаблівасьці гэтых глебаў вымагаюць іншых мэтадаў апрацоўкі іх, бо ў праціўным выпадку пяскі ня толькі не аплачваюць працу гаспадара, але часта не вяртаюць яму і насеньня.

Над вывучэньнем спосабаў апрацоўкі пяскоў працуе дзесяты год Навазыбкаўская дасьледчая станцыя (у Гомельшчыне), якая прычынілася да падняцьця ўзроўня акалічных вясковых гаспадарак і цэлай усходняй часткі нашае Бацькаўшчыны.

Галоўнай заганай пяскавых глебаў — іх беднасьць арганічнай масай. Бяз гною гаспадарыць на пясках не магчыма, а ў гаспадарцы заўсёды адчуваецца ў ім недахоп. Здавалася, што гаспадарка на пясках пастаўлена ў зачараваны круг, з якога нельга найсьці выхаду. Але навука зьвярнула ўвагу на сідэрацыю (зялёнае ўгнаеньне), якая на пясках з пасьпехам можа замяніць хлеўны гной і гэтым самым пакрыць патрэбу пяскоў у арганічнай масе.

Навазыбкаўская станцыя цэлым чарадом досьледаў і назіраньняў знашла, што для пяскоў лепш ўсяго надаецца **лубін і сэрадэля**.

**Як сеюць лубін на станцыі?** У выніку шасьцігадовых досьледаў станцыя ўсталіла, што найлепшым часам для пасеву лубіну зьяўляецца ад 20 да 25 мая. Наогул, яго можна з пасьпехам сеяць ад 15 мая да 5 чэрвеня. Пасеены раней, лубін дасьпявае зарана да яго заворваньня, а пасеены пазьней — не дасьпее і дасьць менш зялёнай масы. Усталена, што лубін дае найвялікшую карысьць тады, калі ў часе яго заворваньня зярняткі ў струкох пачынаюць прыймаць бліскучы від.

На станцыі праводзіліся досьледы над жоўтым, сінім і белым адменамі лубіну. Жоўты лубін на станцыі даваў больш зялёнай масы і гэтым самым лепш уплываў на павялічэньне ўраджаю наступнага збожжа. Але культура жоўтага лубіну вымагае ад гаспадара больш уважлівага дагляду, як апрацоўка ральлі, угнаеньне і г. д.

Каб атрымаць больш багатую зялёную масу лубіну, станцыя высявае яшчэ пад лубін патасовую соль і фосфаравую муку.

Калі стаіць пагода ня спрыяючая да дасьпяваньня насеньня лубіну, станцыя часта яго жне ў той час, калі зярнё пачынае прыймаць колер высьпеўшага зярня. Лубін астаўляецца дасьпяваць на ніве ў снапох. Гэтым можна прыспешыць дасьпяваньне лубіну на насеньне на 2—3 тыдні, пры чым зярнё ніскалькі ад гэтага ня траціць здольнасьці да прарастаньня.

Каб зярнё лубіну не псавалася, станцыя сачыць за яго сухасьцю. Складаецца ён сухім і ў сухім месцы. Перахоўваючы пры сухіх варунках, станцыя ні аднаго разу ня мела папсаванага насеньня лубіну.

**Як сеюць на станцыі сэрадэлю.** Сэрадэля высяваецца або на асобым куску грунта, або падсяваецца ў жыта, ячмень і авёс. У жыта сэрадэля падсяваецца як мага раней — між 24 красавіка і 5 мая. Патрабуецца каля 3—4 пуд. на дзесяціну. Не баіцца прымаразкаў, але ў першыя часы маладая сэрадэля расьце вельмі марудна. Сэрадэля ўжываецца як сялёнае ўгнаеньне, таксама добра ідзе і ў корм. Высеяная ў жыта, яна не патрабуе шмат клопату і выдаткаў ад гаспадара, а таксама і асобага поля.



Галоўны карэнь лубіну з жалвачкамі, дзе месьцяцца бактэрыі, якія абагачваюць глебу солямі азоту.

Сэрадэля, заворанае на зялёнае ўгнаеньне, павялічвае ўраджай бульбы на 400—500 пуд. з дзесяціны.

У годы мокрыя сэрадэля рабіла лепшы ўплыў на наступны ўраджай, чым гной.

Падсеў сэрадэлі ў збожжа не адбіваецца на зьмяньшэньні ўраджая апошняга. Так, на станцыі атрымана аўса без падсеву сэрадэлі 80 пуд. з дзесяціны, а з падсевам — 79 пуд.; ураджай ячменю без падсеву—91 пуд, а з падсевам — 90 пуд.; ураджай жыта без падсеву—87 пуд., а з падсевам—88 пуд.

Пры пасеве ячменю ці аўса поле заразжа пасьля пасеву трэба забаранаваць і, пасеяўшы сэрадэлю, ізноў забаранаваць.

Сярэдні ўраджай сэрадэлі бывае каля 200 пуд. сена і 60—80 пуд. насеньня.

**Асаблівыя вымаганьні лубіну і сэрадэлі.** Калі лубін і сэрадэля сеюцца першы раз, дык зямлю трэба заразіць бактэрыямі гэтых культур. Тлумачыцца гэта тым, што на карэньнях матыльковых расьлін, да якіх належыць лубін і сэрадэля, жывуць спэцыяльныя маленькія істоты (бактэрыі), якія перахвачваючы з паветра азот, абагачаюць глебу гэтым найкаштаўнейшым складнікам зямлі.

Раз зямля гэтымі бактэрыямі не заражана, што бывае тады, калі на ёй раней не расьлі названыя расьліны, дык на карэньнях лубіну і сэрадэлі бывае вельмі мала бактэрыяў і зямля слаба абагачавецца азотам. Заражэньне глебы бактэрыямі на станцыях робіцца цераз разсыпаньне на дзесяціну грунта, вызначаючы пад лубін ці сэрадэлю, 120 — 150 пудоў зямлі, узятай з поля, на якім раней гэтыя расьліны высяваліся.

**Ураджай галоўных расьлін на станцыі.**

**Жыта** (па лубіне) ад 74 да 154 пуд. на дзесяціну. Чым большая маса лубіну заворана, тым большы ўраджай. Пры ўгнаеньні торфам: ад 48 да 106 пуд. з дзесяціны. Чым больш уносіцца торфу, тым ураджай павялічваецца.

**Авёс** (па лубіне і сэрадэлі)— ад 45 да 120 пуд. з дзесяціны.

**Ячмень**—ад 55 да 110 пуд.

**Бульба**—ад 600 да 2200 пуд.

**Турнэпс**—(кармавая рэпа) ад 3000 да 4158 пуд.

**Бручка** — каля 3500 пуд.

**Морква** — каля 2200 пуд.

На станцыі часта ўжываецца пажніўныя культуры— лубін, віка ў сумязі з аўсом, турнэс і інш. Гэтым станцыя, выкарыстўваючы цяпло ў часе пасьля жніва жыта і ячменю, здыймае з поля ў адзін год два ўраджаі. Пажніўныя культуры даюць вельмі добрыя вынікі.

*У. П.*

# Земляная груша.

*(Helianthus tuberosus).*

Земляная груша, як расьліна мала вымагаючая ад глебы і клімату, добра надаецца да Заходняе Беларусі, дзе кармавы крызыс адчуваецца амаль штогод востра. Між тым, гэта расьліна дае на самых бедных, пяскавых і нават камяністых глебах, абы ня мокрых, заўсёды добры ўраджай клубняў, якія ідуць у корм для сьвіньняў, кароў і коней. Каліўе добра надаецца для сіласу. Зямляная груша, раз пасаджаная, трымаецца на адным месцы доўга, так што бывае яе трудна вынішчыць.

Культура зямляной грушы падобна да культуры абсыпальных расьлінаў (бульбы буракоў і іншых). Калі стаіць вясна сухая, яе можна садзіць у восень. Пасаджаная вясной, груша прарастае позна. Садзяць яе ў радкі ў адлегласьці 60 ст. і ў радку клубень ад клубня — 40 ст. Можна ў мэтах эканоміі матэрыялу садзіць парэзанымі клубнямі. Пазьней груша сама разрастаецца і трымаецца на адным месцы некалькі гадоў.

Пры ўправе грушы, трэба сачыць, каб зямля была чыстая ад сарнякоў і ўспульхненая. У ліпні м-цу груша так разрастаецца, што зямлю цалком зацяняе і далейшая ўправа зямлі не патрэбна. У наступныя гады дагляд за грушай заключаецца ў тым, што яе вясной барануюць, потым абсыпаюць зямлёй. На ўгнаеньне добра адклікаецца. Патрабуе ўгнаеньня аднолькавага з бульбай.



Зямляная груша.

Груша стаіць зялёнай аж да самых марозаў. Клубні часта выбіраюцца вясной, бо ў зямлі яны лепш перахоўваюцца чым у капцах. Такім чынам яны ідуць у корм жывёле тады, як у гаспадарцы бывае найвастрэйшы крызы ў корме.

Дзякуючы такім асаблівасьцям грушы, яе часта садзяць на адлеглых кусках, ня ўводзячы ў севазварот. Глебы самыя бедныя, абы не балоцістыя і моцна сьвязлыя— будуць добра надавацца да культуры грушы. Калі гаспадар пажадае даць угнаеньне пад грушу, дык тут кошт заўсёгды вяртаецца.

Нашым сялянам, у якіх часта зямля шмат дзе ляжыць пусткай, а кармавы крызыс — звычайнае зьявішча, трэба больш зацікавіцца гэтай расьлінай і пачаць яе заводзіць у сябе. Думаю, што спробаваўшы пасадзіць грушу і ўмела скарыстаўшы клубні і зялёную надземную масу на сілас, гаспадар хутка пакахае гэту расьлінку і адвядзе на сваей ніўцы ей больш пачэснае месца.

*Б.*

# Аб даходнасьці сельска-гаспадарчых расьлін.

Каб задаволіць свае патрэбы, як пражыўленьне сям'і, патрэба ў корме для ската і г. д., гаспадар высявае на полі не адну—дзьве расьліны, а некалькі. Павялічваць лік культур на полі прымушаюць гаспадара і тыя абставіны, што пры некалькіх разнародных культурах больш правільна разьмяркоўваецца праца яго сям'і ў працягу цэлага году.

Калі мы прыгледзімся да даходнасьці паасобных нашых расьлін, дык нават пры павярховым назіраньні можна заўважыць, што ня ўсе культуры даюць нашаму гаспадару аднолькавы даход, як роўна ня ўсе яны патрабуюць адноль-

кавай працы, якая па рознаму разьмяркоўваецца па месяцах году.

На гэта нашы, нават і перадавыя, гаспадары мала зварачваюць увагі; між тым пры арганізацыі ці пры пераарганізацыі сельскае гаспадаркі прыходзіцца больш уважліва лічыцца з гэтымі асаблівасьцямі паасобных расьлін і выбіраць з іх найбольш рэнтабельныя, гэта значыць, такія, якія пры ўсіх іншых аднолькавых умовах даюць гаспадарцы найвялікшы даход. Рэнтабелнасць нашых культур і выбар ададпаведнага мясцовым умовам агульнага гаспадарчага кірунку—вось два шляхі, па якім можна вывесьці наша кволае земляробства з яго заняпаду.

У гэтым нарысе мы разгледзімо прыбытковасьць найбольш распаўсюджаных на Беларусі культур: *жыта*, *аўса*, *бульбы і лёну* [1]).

Прыбытак будзем зваць *агульным*, калі ацэньваюцца прадукты культуры бяз выдаткаў і *ўмоўна-чыстым*, калі прыбытак бярэцца за вылічэньнем галоўных выдаткаў, як напрыклад: каштоўнасьць насеньня, апрацоўка і ўгнаеньне ральлі, здыйм ураджаю, амортызацыя [2]) сельска-гаспадарчых машын, прыладаў і будынкаў і г. д. Тут мы не бяром пад увагу кошт працы самага гаспадара і яго сям'і, што трудна паддаецца вылічэньню, а па другое—аслажніла-б агляд разглядываемай тэмы. Дзеля гэтага і даход ад культуры будзе не абсалютна, а *ўмоўна-чысты*. Ніжэй пададзеная табліца паказвае, колькі кожная расьліна дае ў жытніх адзінках (жытняя адзінка — 1 пуд жыта) даходу і выдаткаў:

| Назоў культуры | Агульнага | Ўмоўна-чыстага | Выдаткі |
|---|---|---|---|
| Жыта . . . . . . | 75 | 46 | 29 |
| Авёс . . . . . . | 81 | 54 | 27 |
| Лён . . . . . . . | 100 | 74 | 26 |
| Бульба . . . . . . | 174 | 98 | 76 |

Як бачым з табліцы, найвялікшы прыбытак у ўмовах гаспадараваньня на Беларусі дае бульба, потым лён, авёс і нарэшце жыта. Па выдаткам бульба таксама займае ў нашым прыкладзе першае месца. Гэта тлумачыцца тым, што пад бульбу клалася ўгнаеньне, а потым бульба вымагае

1) Вылічэньнямі карыстаюся дадзенымі з досьледаў над селянскай гаспадаркай Беларускага Нар. Ком. Земляробства.

2) Адлічэньне проц. на пакрыцьцё каштоўнасьці рэчы.

шмат конскай працы, якая тут пераводзіцца на кошт жытняй адзінкі і прыймаецца ў рахунак. Невялікі выдатак на лён тлумачыцца тым, што на культуру лёну і выраб валакна не бралася пад увагу праца гаспадара і яго сям'і. Авёс па прыбыткавасьці займае трэцяе месца. Гэта сьведчыць, што на продаж шмат дзе будзе сеяць карысным не авёс, а лён. Жыта займае апошняе месца. Здавалася-б, што плошча яе павінна была-б зьменшвацца за шчот больш прыбытковай культуры, як лён. Але тут стаіць на перашкодзе разьмеркаваньне працы па месяцах году, што прымушае гаспадара не закідваць гэту культуру іншымі. Цяпер разгледзімо разьмеркаваньне працы над кожнай расьлінай па месяцах.

Табліца паказвае, колькі ідзе мужчынскіх дзён на кожны месяц на асобную расьліну пры ўмовах гаспадаркі на Беларусі:

| Назоў расьлінгі | Красавік | Май | Чэрвень | Ліпень | Жнівень | Верасень | Кастрычнік | Лістапад | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Жыта | 0,42 | 0,28 | 2,81 | 8,64 | 9,45 | 3,76 | 3,87 | 4,24 | 33,47 |
| Авёс | 5,30 | 5,0 | 0,70 | 0,55 | 6,66 | 4,35 | 3,09 | 8,57 | 34,22 |
| Бульба | 13,19 | 15,13 | 7.1 | 2,11 | 2,58 | 35.23 | 1,92 | 0,12 | 77,38 |
| Лён | 5,86 | 8,78 | 19,99 | 0,07 | 21,56 | 30,1 | 40,96 | 19,25 | 146,57 |
| Трава | 2,86 | 1,43 | 1,32 | 6,78 | 2,65 | 1,85 | 1,54 | 0,85 | 19,28 |

Як бачым, жыта ў нашым прыкладзе вымагае менш за ўсе расьліны працы: тлумачыцца тым, што ўгнаеньне клалася не пад азіміну, а пад бульбу. Лён вымагае найбольшага ліку рабочых дзён.

Цяпер, калі мы падзелім умоўна-чысты прыбытак ад кожнае расьліны, дык атрымаем аплачываемасьць людзкой працы. Бачым, што 1 рабочы дзень у сярэднім аплачваецца ў жытніх адзінках:

На лёну . . . 0,44
„ бульбе . . 1,30
„ жыце . . 1,40
„ аўсе . . . 1,63

Найменш апчачвае рабочы дзень, як відаць з табліцы— лён, які патрабуе найбольшы лік рабочых дзён.

Пры арганізацыі гаспадаркі гэту аплачываемасьць працы чалавека рознымі расьлінамі трэба браць пад увагу там, дзе гаспадар прымушаны карыстацца наёмнай працай і ўводзіць у севазварот такія расьліны, якія-б давалі найвялікшы прыбытак, бяручы пад увагу мясцовыя ўмовы.

*П.*

# Што рабіць з прымерзшай бульбай.

Часта здараецца ў гаспадарцы, што бульба пры неадпаведным перахоўваньні яе зімой прымёрзае. Далей такую бульбу перахоўваць нельга, бо сама згніе і гніеньне пашырыцца на ўвесь капец.

Калі бульба прымерзла шмат і гаспадар яе зараз-жа ужыць для корму скаціне ня зможа, дык такую бульбу пажаданна „заквасіць,“ ці сіласаваць. Дзеля гэтага бульбу трэба абмыць і, ачышчаную ад зямлі, ссыпаць у сіласную яму. У яме бульбу сякуць сякачом на 2-3 часткі і потым туга прыбіваюць таўкачом. Калі слой убітай так бульбы дасягае таўшчыні якіх 6 цаляў, бульбу прысыпаюць сечкай ці мякінай на 2 цалі, ізноў прыбіваюць, кладуць слой бульбы і робіць, што з папярэднім слоям. Як сіласная яма запоўніцца, дык верх трэба зрабіць як дах, каб вада магла сьцякаць. Па мякіне і саломе кладуць слой зямлі таўшчынёй каля 1 аршыну. За такімі сіласамі трэба пільна наглядадь і, як толькі зьявяцца шчыліны, ці дзіркі — зараз-жа засыпаць, каб гэтым не дапусьціць паветра ў капец.

Такой заквашанай бульбай можна карміць усялякую жывёлу. Да сіласу можна дадаць кухоннай солі (на 1 пуд бульбы 1 хф. солі), але не абавязкава, бо бульба добра сіласуецца і бяз солі, хаця скаціна паядае солены сілас ахватней-

Так я заўсёды ужываю прамерзлую бульбу, дзеля чаго спэцыяльна збудоваў бэтонны сілас, хаця на першых парах сіласаў бульбу ў ямах, выкапаных на высокім месцы, каб ня падашла вада. Ямы капаў глыбінёй каля 1 арш. з прастымі сьценкамі і грунт стараўся выбіраць з глінай. Шырыня і даўжыня ямы залежыць ад колькасьці сіласаванага матэрыялу.

*Пляхтуф.*

# Сьвіньняводства на Беларусі.

Прыродныя варункі Беларусі спрыяюць гадоўлі сьвіньней, якія па здольнасьці перарабляць прадукты гаспадаркі ў мяса і сала займаюць першае месца сярод іншых жывёлін. Практыкай і шматлічебнымі досьледамі даведзена, што сьвіньня на адзін фунт прыросту ў сваём целе патрабуе корму амаль у 3 разы менш, чым карова. Калі ўзяць пад увагу тое, што сьвіньні для свайго жыцьця і адкорму патрабуюць, на раду з іншымі кармамі, і сельска-гаспадарчыя адкіды, перарабляючы іх у прадукты высокай вартасьці, як сала, мяса, шэрсьць, дык карыснасьць сьвіньняводства ў нас будзе яшчэ больш зразумелай.

Шкада, мы да гэтага часу, калі і пашыраем гэту галіну гаспадаркі дык больш лічэбна, чым якастна, дзякуючы чаму мы ня здольны вясьці канкурэнцыю дома з прадуктамі сьвіньняводства загранічнага паходжаньня. Амэрыканскае сала, будучы прывезена з-за акіянаў і прашоўшы ўсе таможні, часта выцясьняе ў нас мясцовае сала, якое і па якасьці і нават цане ня можа выдзяржаць канкурэнцыі з за граніцай.

Зразумела, што амэрыканскія гаспадары, ладуючы караблі саламі і, высылаючы іх да нас, на гэтым ня думаюць нясьці страту. Там ужо наперад вырахавана, па якой цане можна прадаць свае прадукты, каб аплаціць кошт утрыманьня і адкорму жывёліны і плюс да гэтага штосьці зарабіць.

У чым тут сякрэт? Замежныя гаспадары даўно зьвярнулі ўвагу на сваё сьвіньняводства і стараннымі падборам расы і індывідаў дасягнулі ў гэтым напрамку значных пасьпехаў. Там усё выкідываецца, што не аплачваецца дзяржаць, а рацыянальнае кармленьне скаціны дае магчымасьць ім выкарыстоўваць жывёлу, як найлепшую машыну для перапробкі корму і гаспадарчых адкідаў у прадукты высокай вартасьці, якія лёгка транспарціраваць да самых далёкіх куткоў зямной кулі.

Калі прыглядзецца да нашага сьвіньняводства, дык трэба прызнацца, што праца нашых перадавых гаспадароў, вызваляўшыхся з традыцыйных старадаўніх звычаяў, яшчэ ня мае ясна акрэсьлянага пляну. Мы часта ганяемся за расавымі сьвіньнямі, якія будучы скорасьпелымі, менш патрабуюць корму, як для свайго ўзросту, таксама і адкорму. Але з практыкі чуваць усё часьцей галасы, што расавыя сьвіньні трудней адкармліваюцца на сала, чым мясцовыя гатункі, а здатнасьць іх да розных пошастных хваробаў у нас стаіць шмат вышэй за мясцовых сьвіньней. Гэтыя факты, здаецца, гавораць, што чурацца зусім мясцовымі гатункамі сьвіньней пакуль што ня прыходзіцца. Маем мы пад рукой каштоўны матэрыял у пастаці беларускай вялікай доўгавухай сьвіньні. Калі да яе даліць крыві скорасьпелых сьвіней, дык трэба чакаць, што маглі-б вывесьці гатунак найлепш падаючыйся да нашых умоў.

Цяпер зьвернемся да адкорму сьвіньні ў нас. Тут, лагодна кажучы, нашы гаспадары часта ня маюць ніякага паняцьця аб кармленьні наогул жывёлы, а асабліва сьвіньней па нормам. Пры адкорме корм задаецца ўволю і аднастайны, ад чаго сьвіньням ён хутка прыкрае і яны перастаюць яго ахвота паядаць, што зацягвае пэрыяд адкармлі ваньня і гэтым самым ударажае адкорм.

Па адозве нашых лепшых гаспадароў і па маім уласным назіраньням, часта пасьпех адкорму залежыў ад разна-

стайнасьці ў кармавой дачы розных гатункаў кармоў з прыбаўкай макухі. Сьвіньні ахвотна паедалі такі корм, калі ён задаваўся па нормам, лепш папраўляліся, хутчэй адкармліваліся і гэтым самым адкорм сьвіньні каштаваў гаспадару дзяшавей.




Вызначэньне вагі сьвіньні абмерам.

Пільнуючыся правілаў адкорму па нормам, гаспадар павінен сачыць, каб сьвіньня ахвота корм паедала, але не пакідала яго ў карыце.

Пры адкорму сьвіньней трэба іх часта важыць. Калі ў гаспадара няма вагі дык вагу можна вызначыць абмерам. Дзеля гэтага бяруць тасьму, падзеленую на цалі, меруць сьвіньню ў грудзёх і сьпіну ад патыліцы да пачатка хваста, як паказана на рысунку.

Атрыманыя лічбы ў цалях множаць адна на другую і здабытак ад множаньня дзеляць:

калі сьвіньня тлустая — на 9,
калі сьвіньня па тлустасьці сярэдняя — на 10
і калі сьвіньня худая — на 11.

Атрыманыя пасьля дзяленьня лічбы і дадуць вагу сьвіньні ў фунтах.

*У. П.*

# Некалькі слоў пра гадоўлю курэй зімой.

У нашае вёсцы куры часта зьяўляюцца якойсьці карай гаспадара. Летам яны, калі і нясуць яйкі, дык часта затое прыносяць вялізную шкоду на гародзе і ніве. Зімой курэй засаджваюць у „турму“ — падпечак, дзе яны дтстануць розныя хваробы і на вясну падыхаюць.

Між тым, досыць палажыць тут трохі працы і дагляду, як гэтыя маленькія жывёлы могуць прынесьці гаспадарцы

значны даход. Перш-на-перш, з надыходам зімы мы мусім курэй трымаць не падпечкам, дзе яны робяцца кволымі і аб нёскасьці іх няма мовы, ды апрача таго псуюць паветра ў жылых памяшчэнянях, а збудаваць некаштоўны курнік, у якім ня трудна забясьпечыць курам хаця трохі цяпла, прынамсь на нач. Калісь думалі, што ў курніках трэба было рабіць печы, пры дапамозе якіх аграваць іх. Цяпер пераканаліся, што гэта ня толькі памагае, але нават шкодзіць, бо курыца, выбегаючы з цёплага памяшчэньня на мароз — прастуджвалася.

Для курэй выстарчае, калі ў курніку столькі цяплыні, калі там вада не замярзае. А такую цяплыню куры самі сабе ствараюць, калі курнік шчыльна збудаваны і цераз шчэлкі ня дуе вецер да сярэдзіны. Дзеля гэтага цяпер, з падыходам зімы, трэба апакляваць курнік, на сталяваньне палажыць саломеныя маты і моху, добра прытасаваць дзьвевы. Каб яшчэ лепш захаваць цяпло ў курніку, трэба ў вялікія маразы дадаць сьвежага конскага ці авечага гною, які аграваe паветра.

У марозныя дні курэй ня варта выпускаць на панадворак, а трымаць іх у памешканьні, даючы ім капацца якоганебудзь корму. Важна, каб у гэты час куры даставалі такі корм, які грэе курыцу, напр. ячмень з мякінай. Карысна дадаваць да корму мясной і касьцяной мукі, або замест іх — макухі з дамешкай пашнай вапны.

Шкодна дазваляць курам есьці сьнег або лёд, ад чаго куры хутка захварваюць. Ім треба раз на дзень даць вады з хатняй тэмпэратурай.

Вось так, калі мы будзем даглядаць сваіх курэй, дык яны будуць ня карай гаспадара і на іх будзем пасылаць не каршуна, а звычайна — купца. Замест прыкрасьці, яны прынясуць гаспадарцы карысьць. Праца ня хітрая, ня складная, а ўдзячная, а асабліва зімой, калі цэны на яйкі высокія.

*К. К.*

---

## Хваробы ў авечак.

Авечкі, як ведама, часта хварэюць на тыя самыя хваробы, што і кожная іншая жывёла. Толькі ў авечак ёсьць пэўныя хваробы, ад якіх яны больш церпяць і якія выклікаюць паміж імі значныя страты.

Дзякуючы таму, што авечак разводзяць дзеля воўны і аўчыны,—*наскуркыя* хваробы ў іх займаюдь першае месца і патрабуюць да сябе найбольшай увагі. Зразумела, што і ўсе іншыя хваробы, асабліва хранічныя, якія зьнясіляюць авечак, таксама павінны цікавіць кожнага гаспадара ня толькі таму, што хворыя мізарнеюць і трацяць мяса, але

і таму, што ў іх псуецца воўна пад час хваробы. Ня трэба ўжо казаць, што заразьлівыя хваробы, так зв. пошасьці, якія нападаюць на авечак, як і на кожную іншую жывёлу, павінны цікавіць гаспадара ня толькі таму, што ад іх гінуць тыя, што захварэюць, але і таму, што зараза ад авечкі можа перайсьці на іншую свойскую жывёлу і пацягнуць за сабою вялікія страты, пашырыўшыся на значныя абшары.

Тут мы разгледзім толькі некаторыя авечныя хваробы, якія досыць часта сустракаюцца ў авечак.

**Катар носу**. (цеча з носу) бывае досыць часта ў авечак, то ў лёгкай форме, то ў больш-менш цяжкай. Тая і другая форма катару бывае найчасьцей ад застуды, ад пылу і часамі адразу захоплівае шмат авечак. Найбольш церпяць ад катару ягняты і слабыя авечкі, яны хутка зьнясільваюцца, дрэнна растуць і робяцца кволымі. Катар з носу можа перайсьці на горла і на вочы. Хворыя авечкі пры гэтым чхаюць, сапуць, трацяць жуйку, у іх зьяўляецца гарачка, затрыманьне жалудку часта зьменьвае панос, сілы слабеюць, авечкі больш ляжаць і мізарнеюць. Перад сьмерцьцю зьяўляюцца сутаргі.

*Лечаць* катар прамываньнямі носу рашчынай борнага квасу (1 гарбатную лыжачку б. квасу на шклянку вады). Захварэўшых аддзяляюць у больш цёплы і сухі хлеў, паляпшаюць ім корм і агульныя ўмовы ўтрыманьня.

**Авечы авадзень**—таксама выклікае катар носу. Гарачым летам, у сярэдзіне альбо ў канцы лета, па ўзьлесьсю лётае шмат авечых аваднёў, саміцы якіх запаўзаюць авечцы ў нос і там пакідаюць свае яйкі. Праз некатары час з гэтых яек вырастаюць чарвячкі вялічынёю з боб, якія паўзуць глыбей, у верхнюю частку носу, нават запаўзаюць ў лобавыя і рагавыя пазухі і сядзяць там месяцы 3—4. Калі чарвячкоў гэтага авадня народзіцца ў носе шмат, то авечкі ад іх вельмі церпяць і нават прападаюць. З носу ў такіх авечак бесперастанку цячэ гной, яны ходзяць хістаючыся і спусьціўшы ўніз галаву.

Выгнаць аваднёвых чарвячкоў з носу няма як, ніякімі спосабамі іх нельга адтуль дастаць. Каб папярэдзіць гэтую хваробу, радзяць ў гарачую пару, у сярэдзіне і ў канцы лета, не пасьвіць авечак паблізу лясоў; насы ў авечак намазваюць дзёгцам, крэолінам з ільняным маслам (1 ч. крэоліну на 10 ч. масла) карасінаю і наагул сродкамі з моцным пахам, які адбіваў-бы аваднёў. Таксама вельмі карысна рабіць венікі з квітучага палыну; высушыўшы іх у цяньку, мачаюць у чысты дзёгаць і ўсьлед выкачваюць у дробнай звычайнай солі; гэткія венікі развешваюць у аўчарнях і часад-часу ўзнаўляюць. Авечкі з вякікаю ахвотаю ліжуць гэткія венікі і нават абгрызаюць іх: гэта ня толькі перасьцярагае іх ад аваднёў, але таксама карысна і супроць другое пашы-

ранае ў нас на Беларусі авечае хваробы — супроць так зв. „матыліцы“ альбо „мятлушкі“ (пячонкавага двуроту).

**„Матыліца“** пануе на нізкіх балоцістых мясьцінах; у некаторых мясцох ёю заражаны да 60 проц. авечак і дзеля таго, што глісьцюкі, якія яе выклікаюць, сядзяць ў печанёх, барацьба з гэтаю хваробаю лекамі амаль што немагчыма. Сяляне самі прабуюць ужываць пры гэтай хваробе розныя спосабы, як напр. у некаторых вёсках хворым авечкам даюць халодную чыстую ваду і канапляную мякіну. У апошнія часы заграніцаю знашлі новае лекарства проці „матыліцы“—„Дысталь“, якое нібы дае добрыя вынікі. Галоўнае пры гэтай хваробе—гэта асушка канавамі і дрэнамі балотаў і пасыпка авечае пашы вапнаю, ад чаго зародкі глісьцюкоў „матыліцы“—зьнікаюць.

**„Валасень“**—так завецца хвароба, што выклікаецца цененькімі, як волас, глісьцюкамі (валасьня), які ў значным ліку часамі трапляе ў гарлянку і ў дыхальныя дудачкі (так зв. бронхі) авечкам. З кашлям гэтыя глісьцюкі разам з яечкамі выхарківаюцца авечкамі і трапляюць у лужыны, крыніцы і наогул на мокрыя мясьніцы, якіх уюды шмат знаходзіцца на балотах. Там, у вадзе, з гэтых яечак вырастаюць глісьцюкі—„валасьня“, якія потым, калі авечкі пьюць гэткую заражаную ваду, разам з вадою трапляюць да здаровых авечак і заражаюць іх. Заражаныя авечкі моцна кашляюць, цяжка аддыхаюць, трацяць апэтыт, слабеюць і часта прападаюць ад зьнясіленьня. Асабліва церпяць ад валасьня маладыя авечкі і ягняты, якіх часта прападае добрая палавіна.

*Лячэньне* ад „валасьня“ лекамі нязвычайна нявыгодна і патрабуе ўдзелу вэтэрынара. Спачатку хваробы радзяць абкурываць хварых дымам з пад ялаўцу, з пер‘я, або з рогу; абкурваюць іх у шчыльна зачыненым хлеве і трымаюць авечак у гэткім дыме мінут 15, ня болей.

*Перасьцярога.* Ягнят, і наогул авечак, ня радзяць пасьвіць па мокрых і нізкіх мясьцінах, асабліва падчас дажджоў. Ягнят у вільгаць найлепш трымаць на сухім корме, альбо перад выганам на пашу падкармліваць сенам і выганяць у поле, напаіўшы іх дома, каб авечкі ня кідаліся да кожнае лужыны. Нізкія, заімшэлыя мясьціны і выганы, а таксама вялікія лужыны там, дзе пасуцца авечкі, належыць абсушваць канавамі і дрэнамі, каб зьнішчыць зародкі ўсякіх глісьцюкоў. Гной, дзе стаяць хворыя авечкі, карысьней спаліць.

**„Вярцячка“** — хвароба, пры якой авечкі кружацца навокал сябе. Вярцячка ў авечак бывае ад таго, што ў мазгі да іх трапляе часамі зародак істужкавага сабачага рабака (ланцужнага мазгавіка), які звычайна жыве ў іншых сабак. Авечкі зьядаюць яечкі гэтага рабака разам з травою, забруджанаю сабакаю, якая мае ў сабе гэтага рабака. У жываце

авечкі з яечак вылупляецца зародак рабака; ён прасьвідроўвае сьценку жалудка, трапляе ў кроў і крывёю заносіцца ў мазгі авечкі; тут, у мазгох ён затрымоўваецца і жыве аж да самае сьмерці авечкі, — гэтым і выклікаецца вядомая ўсім хвароба, т. зв. „вярцячка“ авечкі. Сабакі, якія зьядаюць мазгі хворае авечкі, заражаюцца ад іх гэтым рабаком і з свайго боку заражаюць потым авечак яечкамі гэтага рабака.

Хворыя авечкі спачатку хутка томяцца, адстаюць ад статку, робяцца пужлівымі, вочы ў іх набягаюць крывёю, лоб робіцца гарачы і авечкі, трацячы прытомнасьць, кружацца, або стаяць упёршыся ў сьцену лобам ці бегаюць, як няпрытомныя, спусьціўшы галаву ўніз або схіліўшы яе набок. Часамі, асабліва ў ягнят, хвароба выяўляецца спачатку кволасьцю ў задзе, хворыя ходзяць хістаючыся на зад, спатыкаюцца і нарэшце ў іх паралізжуе ўсю заднюю частку цела. Наогул, захварэўшыя на „вярцячку“ авечкі гінуць ад зьнясіленьня і палярушу мазгоў. Калі абмацаць рукамі галаву хворае авечкі, то можна заўважыць у яе на галаве невялічкі выпух, націснуўшы на які лёгка выклікаць боль і сударгі ў хворае авечкі.

*Лечаць* хворых на вярцяцку авечак, робячы ім апэрацыю на галаве і дастаючы з мазгоў зародак рабака (авечы мазгавік). Але гэтая опэрацыя не заўсёды дае добрыя вынікі.

*Перасьцярога* пры гэтай хваробе мае большае значэньне. Кожную вясну і восень неабходна выганяць рабакоў з сабак. Сабакам даюць 4 разы на дзень, праз кожныя 4 гадзіны, па гарбатнай лыжачцы парашку з карнявішча папараці; праз 6 гадзін пасьля апошняе лыжачкі папараці даюць 2—3 лыжкі рыцыны ці алею. Кал з рабакамі і галовы авечак, якія прападуць ад „вярцячкі“, належыць спаліць.

„Плуг“ № 2, 1926 г.

---

# Стратыфікацыя насеньня пладавых дрэў.

Садоўніцтва на Беларусі пашыраецца. Сяляне пачынаюць цікавіцца гэтай галінай гаспадаркі. Папыт на прышчэпы павялічваецца. Добра пастаўленыя садовыя ўстановы цэны на дрэўцы павышаюць. Гэта часта прымушае нашага селяніна набываць прышчэпы на бліжэйшых кірмашох. Затраціўшы грошы, селянін хутка пераконваецца ў тым, што яго на кірмашы невядомы „садавод“ ашукаў, прадаўшы неадпаведны гатунак дрэва, ці ня здольнае да жыцьця.

Прайшло даволі часу, гаспадар чакае пладоў, а замест іх — або прыходзіцца высякаць высахшае дрэўца, або апошняе дае дзікія плады. Гэтыя факты, які часта можна назіраць у нас, павінны прымусіць нашых гаспадароў заняцца вырашчваньнем прышчэпаў у сваёй гаспадарцы. Справа ня выма-

гае шмат коштаў, досыць толькі, каб пачынаючы садавод запасься адпаведнай ведай.

У гэтым нарысе я хачу пазнаёміць нашых чытачоў са спосабамі перахоўваньня насеньня яблыняў і ігруш пры дапамозе стратыфікацыі.

Насеньне пладавых дрэў уладаюць тымі асаблівасьцямі, што, пасеяныя вясной без адпаведнага іх пераханьня, часта губляюць здольнасьць прарастаньня. Дзеля гэтага іх лепш высяваць на пладовую ляху ўвосень (верасень і кастрычнік м-цы). Гэта-ж робіць і сама прырода. Але бываюць выпадкі, што аматар-садавод ня ўсьпее пасеяць насеньне ўвосень, або каля пладовай школкі распладзіліся мышы, якія вельмі ласы на насеньне і іх цалком за зіму паядаюць у зямлі — тады прыходзіцца задавольніцца пасевам вясной.

Каб насеньне дрэў за зіму не страціла здольнасьці прарастаць, іх стратыфікуюць. Раблю я гэта так: бяру пасуду з дзіркамі на дне, каб магла працякаць вада ад паліўкі, кладу на дно чарапкі, насыпаю на іх слой пяску таўшчынёй ½—1 вярш., на гэты слой кладу слой насеньня так, каб скрозь іх можна было бачыць слой пяску, ад ступаючы на ½ вяршка ад сьценак пасуды. Гэта робіцца для таго, каб каля сьценак насеньне не прасыхала. Потым насыпаю ізноў слой пяску таўшчынёй ½—1 вяршок, на яго ізноў насеньне і так аж да самага верху пасуды. Верхні слой мусіць быць з пяску таўшчынёй 1 вяршок. Пасуду закрываю ад мышэй і ад прасыханьня і стаўлю ў халоднае месца—склеп. Зімой сачу, каб насеньне не псавалі мышы і не прасыхалі.

Здараецца, што ў сакавіку месяцу насеньне пачынае ў пасудзіне прарастаць, а зямля на лясе яшчэ не адтаяла. У гэткім выпадку я вынашу пасудзіну ў халоднае месца, дзе затрымліваю працэс прарастаньня. Калі здараецца, што час пасеву надышоў, а насеньне яшчэ не прарастае, дык гэтае прарастаньне ўскараю паліўкай іх цяплаватай вадой. Падгатоўленыя такім спосабам (стратыфікацыяй) насеньне даюць дружныя ўсходы, ня горшыя чым пасеяныя ўвосень.

Адначасна перахоўваю насеньне і наступным спосабам, які практыкуецца ў мяне ў працягу 10 гадоў. Я перахоўваю частку насеньня не ў закрытым памяшчэньні, а ў зямлі. Для гэтага выкапваю яму ў школцы, куды і стаўлю пасуду і закапваю яе тут так, каб пакрышка зямлі над пасудай была ня менш 8—10 вярш. Гэты спосаб яшчэ больш выгадны, бо не вымагае дагляду за страфіцыраваным насеньнем.

У наступных нумарох „Сахі“ пагутару аб падрыхтоўцы зямлі ў школцы, аб самым пасеве насеньня, даглядзе за дзічкамі, прышчэпкай іх і г. д.

*Садавод.*

# Гаспадарчыя парады.

**Пытаньне.** Маю добрую карову, але ўжо другі год, як ня целіцца і ня прыходзіць у „ахвоту“. Парадзьце, ці ёсьць спосаб прымусіць карову прыняць быка?

**Падпішчык Сяргей Масюк.**

**Адказ.** З Вашага пытаньня ня можна відзець, у якім стане знаходзіцца карова. Часта каровы ня прыймаюць быка дзякуючы агульнаму аслабленьню ці хваробе спэцыяльных палавых органаў. Адпаведнае кармленьне і лячэньне хваробы хутка прыводзіць карову ў такі стан, калі яна патрэбуе быка.

Калі тут прычынай не дапусканьня каровай быка ёсьць не хвароба, дык часта гаспадары прымушаюць карову „прысьці ў ахвоту“ прыбліжэньнем быка да такой каровы. У корм карове пажадана даваць ільняной макухі, кухонай солі. Крыж націраюць сьпіртам.

Некаторыя гаспадары раюць даваць карове хлебны квас.

**Пытаньне.** Ці ёсьць спосаб атучыць каня кусацца?

**Падп. Адам Сарока.**

**Адказ.** Нораў у каня — кусацца часта зьяўляецца вынікам дрэннага абходжаньня з ім змалку, хаця бывае, што гэты нораў перадаецца ў спадчыну.

Прывычка каня кусацца даецца з вялікім трудом атучыць. Не памагае тут біцьцё каня, ад чаго ён яшчэ больш злуецца і больш кусаецца, мала памагаюць і ахраныя аброці і кошыкі.

Часта атучаюць каня кусацца пры помачы гарачае морквы, саланіны і нават — металу, але гэты спосаб ёсьць дзікі, які можа часам пашкодзіць здароўю каня.

Некаторыя гаспадары рэкамэндуюць атучваць каня пры помачы гнілога і сьмярдзючага мяса. Конь, маючы далікатны нюх, схваціўшы ў часе злосьці зубамі за такое мяса, чуе страшэнную агіду, што можа прымусіць яго адзвычаіцца ад кусаньня.

Спробуйце гэты спосаб, які ня шкодны дзя здароўя каня і вельмі просты. Пажадана было-б, каб Вы падзяліліся з вынікамі гэтае пробы з чытачамі „Сахі“

**Пытаньне.** Калі лепш сеяць насеньне яблыні і грушаў?

**Падпішчык А. Сыч.**

**Адказ.** Насеньне пладовых дрэваў сеюць увосень і вясной. Калі садавод баіцца, што ў восень могуць папсаваць у зямлі мышы, дык пасеў лепш рабіць вясной. Зімой насеньне яблыні і грушаў перахоўваецца з пяском (1 частка насеньня і 5 частказ пяску), з якім насеньне добра перамешваецца і ставіцца ў пасудзіне ў кусты. Рана вясной на-

сеньне адсяваюць на рэшаце ад пяску і сецца на лехі. Як насеньне прарасьце і зьявіцца 2 лісткі — расьлінку хмарнай пагодай перасаджваюць у школку. Падросшыя дзічкі пажадана паліваць жыжай з птушынага гною, да якой дамешваюць печнага попелу і негашанай вапны (1 частка сухога гною, 100 частак вады, 2 часткі попелу і $1/5$ частка вапны).

Практыка ўсталіла, што для вырашчываньня дзічкоў лепш надаецца насеньне дзікіх яблынь і грушаў, ад якіх вырастаюць дрэвы з сільнай карнявой сыстэмай.

**Пытаньне.** У нашае ваколіцы зьявілася хвароба, пры якой рот, вымя і капыты пакрываюцца балячкамі. Што гэта за хвароба і як з ёй змагацца?

**А. Саколік.**

**Адказ.** Трэба думаць, што ў Вас зьявіўся яшчур—страшэная хвароба ня толькі для жывёлы, але і для людзей. Зараз-жа трэба зьвярнуцца да вэтэрынарнага дохтара і абвясьціць бліжэйшай адміністрацыйнай уладзе.

Высылаем Вам 5—кніжку „Сахі“ за 1927 год, дзе падрабязна пазнаёміцеся з гэтай хваробай. Шкода, што Вы ня выпісалі камплект „Сахі“ за 1927 г. (каштуе 2 зл. 25 гр.).

# Наша пошта.

**Якімчыку С., Плікану Я., Асіповічу Я. і іншым.** „Саху“ Вам кожны раз высылаем акуратна. Думаем, што прычына не акуратнага атрымліваньня Вамі часопісі заключаецца не ў абмылцы адміністрацыі „Сахі“, якая пільна сачыць за экспэдыцыяй. Палецонымі друкамі „Саху“ высылаць не акупаецца, бо перасылка кожнага нумару абышлася-б 45 грошаў, што шмат ударажыла-б выданьне.

Змагайцеся з гэтым злом на мясцох. Калі будзе фактычна даведзена злая воля ў не акуратным Вамі атрымліваньні нумароў „Сахі“ з боку пошты ці гміны, дык пажадана гэты факт запратаколіць і пратакол, падпісаны сьведкамі — пераслаць у рэдакцыю.

Мы стараемся даслаць часопісь паўторна, але гэта балюча б‘е па кішэні і да таго беднай нашай рэдакцыі.

**Шалею І.** У рэдакцыі перахоўваюцца ўсе нумары за 1928 год і цэлы камплект, за выняткамі першае кніжкі за 1927 год. Каштуе камплект за 1927 г. 2 зл. 25 гр. з перасылкай.

**Сурку В.** „Саха“ дарма высылацца ня можа. Думаецца, што цана — 3 зл. у год даступна найбяднейшаму гаспадару. Калі ён будзе зацікаўлены ў падняцьці даходнасьці сваей гаспадаркі і ў адраджэньні нашага земляробства, дык пастараецца выпісаць сам і другім параіць.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі—Вільня, вул. Св. Анны 2-3
**Выдавец і Рэдактар А. Уласаў.**

Вышлі
з друку
і прадаюцца

## Беларускія Календары:

**АДРЫЎНЫ** — 1 зл. 40 гр.

**КНІЖКА** — 2 зл. 50 гр.

**Календары** маюць багаты сельска-гаспадарчы аддзел.

ХТО ВЫПІСВАЕ БОЛЬШ 10-ці ЭКЗЕМЛЯРАЎ — АТРЫМЛІВАЕ СКІДКУ.

ГАЛОЎНЫ СКЛАД:

**Вільня, Вострабрамская 1.**
**Беларуская кнігарня.**